# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 4 (1196) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 28 СТУДЗЕНЯ 1979 г. ЦАНА 60 гр.




*На катку.* *Фота Я. Целушэцкага.*

ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

## У нястпынным імкненні да лепшага

На размову са мною **Ежы Зэгальскі,** дырэктар і рэжысёр Драматычнага тэатра імя А. Венгеркі ў Беластоку, мог прысвяціць толькі гадзіну часу, якраз перапынак паміж неадкладнымі справамі ў кіраванні тэатрам і працай з акцёрамі на рэпетыцыі.

**„Ніва“:** Як у вас узнікла зацікаўленне тэатрам?

**Ежы Зэгальскі:** Паходжу я з горада Познані. Мне давялося вельмі блізка пазнаёміцца з выдатнымі творцамі і гуманістамі, між іншым, музыкантамі братамі Г. і В. Коцурамі, гісторыкам мастацтва М. Міхалоўскім і іншымі. Гэта пад іх уздзеяннем паявілася ў мяне зацікаўленне мастацтвам наогул, яно потым стала выяўляцца ў маіх спробах акцёрства і тэатральнай публіцыстыкі. У 1947 годзе паступіў я на аддзяленне рэжысуры Вышэйшай тэатральнай школы ў Варшаве. Там займаўся ў вядомых знатакоў і творцаў, між іншым, у Л. Шылера, Ю. Вышамірскага, Э. Аксера і іншых. Абараніў дыпломную працу пастаноўкай п’есы І. Гётэ „Клявіга“ ў варшаўскім Камерным тэатры ў 1950 годзе. І з таго часу рушыў у сваё тэатральнае падарожжа.

**„Н“.:** Куды і да чаго яно вас павяло?

**Е.З.:** Па ўсёй нашай краіне і да пастановак твораў самых разнастайных драматургаў і кампазітараў. Працаваў я рэжысёрам або дырэктарам тэатраў у Познані, Кракаве, Ольштыне, Любліне, Зялёнай Гуры, Лодзі, Беластоку, на Шлёнску, потым зноў вяртаўся ў Лодзь, Познань, Кракаў, а год таму назад — у Беласток.

**„Н“.:** Чаму такая рухлівасць?

**Е.З.:** У маім нутры сядзіць нешта з натуры акцёраў колішніх вандроўных тэатраў. Праўда, такое бясконцае блуканне робіць жыццё вельмі цяжкім, але не перашкаджае маёй працы. Маё ж жыццё заўсёды было падпарадкавана працы, таму гэтыя частыя пераезды не толькі мне не шкодзілі, але заўсёды натхнялі і мабілізавалі да больш актыўнага дзеяння. Рэжысіраваў я пастаноўкі „Дзядоў“ А. Міцкевіча, „Кардыяна“ і „Фантаза“ Ю. Славацкага, „Ірыдыёна“ З. Красінскага, „Сулкоўскага“ С. Жэромскага, „Санату Вельзевула“ С. Віткевіча, „Танга“ С. Мрожка, „Праметэя“ Е. Анджэеўскага і іншыя творы польскіх аўтараў. З рускай і савецкай драматургіі ставіў „На дне“ М. Горкага, „Нашэсце“ Л. Лявонава, „Аптымістычную трагедыю“ У. Вішнеўскага і іншыя. З сусветнай драматургіі — „Нараджэнне“ І. Вітліна, „Мора“ Бонды і шэраг іншых. Ставіў таксама оперы, між ін-



шым, „Гальку“ С. Манюшкі, „Дон Карласа“ Д. Вердзі і некалькі іншых. Як бачыце, я не звязваюся з адным аўтарам ці нават з выбранай эпохай, хоць вельмі люблю польскіх рамантыкаў і найбольшым сваім рэжысёрскім дасягненнем лічу пастаноўку „Дзядоў“ А. Міцкевіча якраз у Беластоку, у часе маёй тут працы ў гадах 1961—1967.

**„Н“.:** Ці толькі рэжысура і кіраванне тэатрамі вас займае?

**Е.З.:** Не. Апрача гэтага адаптую літаратурныя творы на сцэну і перакладаю на польскую мову п’есы, пераважна заходніх аўтараў. Між іншым, адаптаваў я „Прадвесне“ С. Жэромскага, пераклаў „Змову Фіеска ў Генуі“ І. Шылера, „Маркіза Кейта“ Ф. Ведэкінда і іншыя творы. Сам на сцэну не пішу. Затое займаюся педагогікай. Некалькі год я працаваў прарэктарам і дэканам рэжысёрскага факультэта ў Вышэйшай тэатральнай школе ў Кракаве, вёў там семінар рэжысуры і лекцыі па праблемах драматургіі. Цяпер вяду ў Вышэйшай тэатральнай школе ў Варшаве семінар крытыкі колішняга тэатра на факультэце ведаў аб тэатры, а ў беластоцкім філіяле гэтай школы — майстэрства акцёрскага выконвання ролі.

**„Н“.:** Вярнуўшыся ў Беласток пасля адзінаццаці год працы ў іншых гарадах і тэатрах, вы, напэўна, заўважаеце змены ў адносінах паміж нашым тэатрам і асяроддзем. Якія гэта змены?

**Е.З.:** Змагу поўнасцю адказаць на ваша пытанне. Пакуль што мне цяжка дакладней акрэсліць гэтыя змены. Аднак здаецца мне, што зацікаўленне тэатрам у беластоцкім асяроддзі рашуча зменшылася. Прычыны тут могуць быць розныя. Не выключана, што ў тым таксама віна і самога тэатра, які на працягу шэрагу сезонаў сваімі пастаноўкамі не адпавядаў запатрабаванням асяроддзя. Другая прычына — гэта раптоўны цывілізацыйны рост беластоцкага асяроддзя, а там, дзе такое наступае, зацікаўленне мастацтвам на першых парах бывае мізэрнае. Вядома ж, калі людзі імкнуцца да матэрыяльных багаццяў, там не паўстаюць вялікія духоўныя каштоўнасці. Затым, гарадскі транспарт у Беластоку надта бедны і працуе дрэнна, і цяжка вымагаць ад людзей з Антонюка, Дайлідаў, Выгоды ці Новага Места, каб яны часта наведвалі тэатр, калі не пэўны таго, ці вернуцца нанач дахаты.

**„Н“.:** Ці толькі гэтыя прычыны?

**Е.З.:** Зразумела, што не толькі, ёсць яшчэ шэраг іншых, меншых, але таксама важных. Наогул, у тэатральным жыцці ў нашай краіне выступаюць цяпер вялікія цяжкасці. Перш за ўсё не хапае акцёраў. Тая колькасць, якую выпускаюць нашыя тэатральныя школы, — гэта кропля ў моры патрэбаў. Паўстаюць новыя тэатры, хутка павялічваюць сваю мастацкую „вытворчасць“ кінастудыі і тэлевізія. Акцёры цяпер могуць уволю выбіраць ды перабіраць ся-

Працяг на стар. 4

## Карэспандэнт года

Аб’яўляем вынікі конкурсу „Карэспандэнт года“ за 1978 год. Гэта ўжо шосты раз.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Мікалай Панфілюк | 109 | публ. |
| 2. | Эдмунд Вайсковіч | 72 | „ |
| 3. | Уладзімір Сідарук | 61 | „ |
| 4. | Аляксандр Закройшчык | 41 | „ |
| 5. | Пётр Байко | 40 | „ |
| 6. | Мікалай Лук’янюк | 36 | „ |
| 7. | Уладзімір Хомік | 24 | „ |
| 8. | Міхась Матвеюк | 18 | „ |
| 9. | Эдвард Шчасновіч | 14 | „ |
| 10. | Андрэй Гаўрылюк | 12 | „ |
| 11. | Міхал Кірылюк | 11 | „ |
| 12. | Іван Кірызюк | 10 | „ |
| 13. | Аркадзь Леўшук | 10 | „ |
| 14. | Васіль Петручук | 10 | „ |
| 15. | Дзядзька Квас (без „палоскі“) | 8 | „ |
| 16. | Б. Руткоўскін | 8 | „ |
| 17. | Ольга Пракапюк | 8 | „ |
| 18. | Алойз Гадлеўскі | 8 | „ |
| 19. | Валянцін Анапюк | 7 | „ |
| 20. | Мікалай Ляшчынскі | 6 | „ |
| 21. | Ян Гарстка | 6 | „ |
| 22. | Ян Міхалюк | 5 | „ |

Як бачым, у гэтым годзе паявіліся новыя элементы ў нашым конкурсе. Гэта найперш тое, што Першы карэспандэнт года ўпершыню перакрочыў вялікі рубікон — больш як сто апублікаваных матэрыялаў. Абсалютны рэкорд! Другі і Трэці карэспандэнты таксама дасягнулі вышэйшых лікаў, чым у папярэднія гады. Таксама характэрнае, увесь наш Авангард (прыпамінаем, авангардам называем усіх тых, хто напісаў пяць і больш матэрыялаў), пісаў больш і сярэдняя тут вышэйшая, чым у папярэднія гады. Гэта доказ растучай дасканаласці, сістэматычнасці і пастаянства нашых карэспандэнтаў. Іх вытрымаласць у гэтай нялёгкай і адказнай працы не толькі памагае рэдакцыі, але, што вельмі важнае і праявілася ў гэтым годзе, карэспандэнты праціраюць дарогу іншым, менш адважным часта людзям, каб і тыя таксама асмельваліся браць у рукі пяро і пісаць у рэдакцыю. Наш карэспандэнцкі Авангард спаўняе велізарную ролю ў навучанні людзей смеласці і ўмеласці пісаць пра сябе і пра іншых.

За мінулы год мы змаглі назіраць наплыў вялікай колькасці вельмі цікавых і арыгінальных лістаў ад людзей, дагэтуль ані разу ў рэдакцыю не пісаўшых. Лічым гэта як першыя спробы і верым, што ўпартая „разведка“ нашага жыцця і праца, якую вядуць карэспандэнты, старыя і новыя, прынясе яшчэ большы плён.

А цяпер яшчэ некалькі лікаў: за 1978 год мы апублікавалі разам 614 матэрыялаў 86 карэспандэнтаў. Авангард наш (у гэтым годзе 22 асобы) апублікаваў 524 матэрыялы, 66 іншых — разам 90 матэрыялаў. 46 публікацый з атулу прыпадае на „Парнасік“, дзе найчасцей паяўляўся Дзядзька Квас са сваімі сатырычнымі вершамі, а таксама М. Лук’янюк. У адказ на крытыку апублікавалі мы за мінулы год 102 адказы.

Як бачым, галоўнай нашай базай з’яўляецца Авангард. Ён жа ў асноўным з году ў год і не змяняецца, за выключэннем пару асоб, якія адыйшлі з Авангарду. Тут хочацца пажадаць вельмі моцна, кінуць самыя сардэчныя словы да ўсіх пішучых, каб не адступалі, не пакідалі. З „Трыбуны карэспандэнтаў“ узнімайце свой нязменны голас у абароне ўсяго добрага і прыгожага, а супраць усяго дрэннага.

Першым карэспандэнтам года стаў Мікалай Панфілюк, вядомы энтузіяст „Нівы“, таксама заслужаны ў яе распаўсюджванні як пісьманосец. Вельмі верны „Ніве“ ад наймалодшых гадоў, пісаў яшчэ ў „Зорку“. Тэрыторыя яго карэспандэнцкай дзейнасці — у асноўным гміна Дубічы Царкоўныя.

Другім карэспандэнтам з’яўляецца Эдмунд Вайсковіч. З „Нівай“ як карэспандэнт распачаў супрацоўніцтва некалькі год таму назад і адразу з вялікім размахам, пачуццём тумару і дасканалай знаёмасцю асяроддзя. Галоўная тэма яго публікацый, горад Гайнаўка, гэта вельмі цікавы цэнтр лясной прамысловасці ў Польшчы.

Уладзімір Сідарук — карэспандэнт вельмі даўно звязаны з „Нівай“. Вядо-

Працяг на стар. 4

